Ідэі для Беларусі
№4
НАРОДНАЯ ПРАГРАМА
www.prahrama.by



# Рэформы для бізнесу і заводаў

**Стартаваў чарговы, прымеркаваны да мясцовых выбараў 23 сакавіка 2014 году, этап «Народнай праграмы» – ініцыятывы па выпрацоўцы «дарожных мапаў» рэформаў у розных галінах, якія складаюцца з дапамогай экспертнага і грамадскага абмеркавання.**

У выніку сацыялагічнага апытання на замову Руху «За Свабоду» былі вызначаны восем праблемных тэмаў, якія хвалююць грамадзян Беларусі – патэнцыйных выбаршчыкаў. Гэта паводле працоўных назваў – «Працэдура і ўмовы прыватызацыі горадаўтваральных прадпрыемстваў»; «Якім чынам павінны прымацца рашэнні аб будаўніцтве шкодных вытворчасцяў?»; «Захады па павышэнні якасці паслуг у галіне ЖКГ»; «Ці варта абіраць кіраўнікоў выканаўчай улады адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі усеагульным галасаваннем жыхароў гэтай адзінкі?»; «Рэформа сістэмы сярэдняй адукацыі»; «Неабходныя меры па развіцці прыватнага прадпрымальніцтва»; «Праблемы энергазберажэння»; Прыватная ўласнасць на зямлю».

Эксперты па кожнай з гэтай тэмаў рыхтуюць свой аналіз сітуацыі ў адпаведнай галіне і прапановы па рэфармаванні. Усе тэмы ўжо выкладзеныя на сайт ініцыятывы **prahrama.by** для абмеркавання ўсіх зацікаўленых асобаў. Адбыліся круглыя сталы з удзелам іншых экспертаў.



Апрача інтэрнэт-абмеркаванняў і экспертных круглых сталоў, выдаецца бюлетэнь, чацвёрты нумар якога вы цяпер трымаеце ў сваіх руках. Бюлетэнь дасылаецца ў профільныя рэспубліканскія і мясцовыя ведамствы, а таксама іншым прадстаўнікам улады. Гэтае выданне прысвечана развіццю прадпрымальніцтва і мадэрнізацыі горадабудаўнічых прадпрыемстваў...

На канчатковым этапе тэзісныя прапановы па згаданых праблемах увойдуць у праграмы кандыдатаў у мясцовыя Саветы дэпутатаў. Мяркуецца, што да выбаршчыкаў, выкарыстоўваючы планы рэформаў «Народнай праграмы» з лакальнай адаптацыяй, звернуцца дзясяткі кандыдатаў.

Першы намеснік Руху «За Свабоду», каардынатар «Народнай праграмы» **Юрась Губарэвіч** кажа, што яна не ёсць платформай толькі для кандыдатаў, блізкіх да Руху ці партнёрскіх структур: *«Народная праграма» адкрытая і дасТупная для выкарыстання ўсім ахвотным, хто стаіць на рэфармісцкіх пазіцыях. Напрыклад, на парламенцкіх выбарах 2012 году «Народная праграма», дакладней распрацаваныя ў яе межах каля 30 накірункаў, стала грунтам для праграмаў 49 кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў – то бок, на палове выбарчых акругаў».*

*«Мы разлічваем на тое, што кандыдаты, якія скарыстаюцца напрацоўваннямі «Народнай праграмы», будуць мець магчымасць на якасным экспертным узроўні даваць адказы на пытанні сваіх выбарнікаў. Тым самым яны павысяць свой аўтарытэт у вачах выбарнікаў, і, натуральна, атрымаюць большую падтрымку»,* – падкрэслівае Юрась Губарэвіч, які дарэчы, у свой час перамагаў навыбарах у Белаазёрскі савет дэутатаў.

*«Трэба дэманстраваць, што ёсць пазітыўная альтэрнатыва. І для гэтага прыдатныя і мясцовыя выбары, і прэзідэнцкія выбары, нават калі няма падліку галасоў. Людзі павінны пераканацца, што ёсць на каго паставіць»,* – кажа кандыдат у прэзідэнты на выбарах-2006, былы намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкаму **Аляксандр Мілінкевіч.**

► P.S. Ініцыятары “Народнай праграмы” звяртаюцца да ўсіх зацікаўленых асобаў далучацца да абмеркавання самых розных тэмаў на сайце prahrama.by. Ахвотныя да ўдзелу ў круглых сталах разам з экспертамі могуць пісаць на гэты конт на info@pyx.by ці патэлефанаваць на нумар (+37517)2808863. Пошта: 220005, Мінск, а/с 148. Давайце разам працаваць над планамі рэформаў для лепшай Беларусі.



# Для каго заводы?

**Якія ёсць спосабы выхаду з крызісу для беларускіх монагарадоў? Сваю пазіцыю выказваюць эксперт па рынку працы адной з дзяржаўных установаў і Іна Рамашэўская, каардынатар даследаванняў праекта BIPART (Беларускі інстытут рэформы і трансфармацыі публічнага адміністравання.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

## Сацыяльная адказнасць

У Беларусі існуе звыш за 70 малых гарадоў з монафункцыянальнай вытворчасцю, з іх 50 – монагарады, населеныя пункты, дзе адно прадпрыемства забяспечвае працай не меней 25% эканамічна актыўнага насельніцтва. Па іншых ацэнках, колькасць горадаўтваральных прадпрыемстваў дасягае 170.

Горадаўтваральнае прадпрыемства забяспечвае занятасцю пераважную частку насельніцтва горада, фармуе гарадскі бюджэт, часцяком утрымоўвае сацыяльную інфраструктуру горада. Асабліва востра залежнасць паміж дзейнасцю горадаўтваральнага прадпрыемства і сацыяльна-эканамічным развіццём горада выяўляецца ў малых гарадах. Рынкі працы малых гарадоў характарызуюцца як замкнёныя, інерцыйныя, з верагоднасцю ператварэння іх у крытычныя і рызыкай росту сацыяльнай напружанасці.

Улічваючы тую акалічнасць, што большасць горадаўтваральных прадпрыемстваў знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці і з’яўляюцца стратнымі, іх рэструктурызацыя патрабуе кансалідацыі высілкаў з боку як мясцовых улад, так і ўраду, а таксама іншых стэйкхолдэраў.

Адным з інструментаў вырашэння праблемаў горадаўтваральных прадпрыемстваў можа быць распаўсюджаная ў замежных краінах практыка сацыяльна адказнай рэструктурызацыі (САР), якая прадугледжвае улік інтарэсаў уласнікаў прадпрыемства, кіраўніцтва, працаўнікоў, мясцовых уладаў і супольнасці. Асаблівая ўвага ў працэсе САР надаецца працаўнікам, якіх скарачаюць, – з імі індывідуальна працуюць спецыялісты і ў дадатак да выходных выплатаў, што кампенсуюць страту занятасці, іх перанавучаюць, аказваюць дапамогу ў адкрыцці бізнэсу і так далей.

Тут вельмі важныя своечасовае правядзенне якаснай інфармацыйнай кампаніі, індывідуальны падыход да працаўнікоў, выпрацоўку выразных крытэраў вызвалення персанала, правядзенне якаснай кадравай дыягностыкі. Стварэнне непасрэдна на прадпрыемстве цэнтра дапамогі працаўнікам, якіх звальняюць, дазваляе дасягнуць добрых вынікаў пры масавых скарачэннях.

Кіраўніцтва прадпрыемства зацікаўлена перадусім у захаванні пазітыўнага іміджу арганізацыі ў вачах працаўнікоў, матывацыі да прадукцыйнай працы, таму павінна ўсяляк ініцыяваць і падтрымліваць ініцыятывы дзяржаўных службаў занятасці і прафсаюзаў, накіраваныя на змякчэнне сацыяльных наступстваў, перанавучанне і іншыя меры, што дазваляюць актывізаваць працоўныя рэсурсы. Прафсаюзы павінны абараняць права працаўнікоў на годныя выходныя выплаты, якія залежаць ад кваліфікацыі і стажу працы.

Лепшай практыкай дзейнасці службы занятасці можна лічыць літоўскі і польскі досведы, дзе супрацоўнікі дадзенага інстытута актыўна ўдзельнічаюць як у рашэнні праблем масавых скарачэнняў, так і ў аказанні індывідуальных паслуг звольненым працаўнікам.

Негатыўныя працэсы скарачэння занятасці адбіваюцца найперш на лакальнай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, таму менавіта мясцовыя ўлады павінны мець адпаведныя паўнамоцтвы і рэсурсы для актывізацыі САР.

Рэструктурызацыя горадаўтваральных прадпрыемстваў – як правіла, працяглы працэс, таму неабходна яе загадзя планаваць і арганічна інтэграваць САР у стратэгію рэгіянальнага развіцця. У аснову такіх стратэгій можа быць закладзеная мадэль рэіндустрыялізацыі з улікам развіцця функцыянальных сувязяў паміж рэгіянальнымі лідарамі росту і монагарадамі. Стратэгічная важнасць САР для такіх рэгёнаў дазваляе рэкамендаваць яе планаванне пры распрацоўцы схем комплекснай тэрытарыяльнай арганізацыі (СКТА) абласцей Беларусі.

Працяг на с.3





# Спачатку аўдыт

Іна РАМАШЭЎСКАЯ

Прамысловая палітыка беларускіх уладаў на працягу апошніх дваццаці гадоў ўяўляла сабой збольшага кансервацыю сітуацыі ў монагарадах за кошт выдзялення сродкаў (льготных урадавых крэдытаў) на падтрыманне як вытворчай, так і сацыяльнай інфраструктуры. Ва ўмовах, калі сігналы рынку скажаліся пратэкцыянісцкай палітыкай, нават спробы мадэрнізацыі вытворчасцяў часцяком зводзіліся толькі да куплі новага абсталявання або будаўніцтва новых вытворчых плошчаў без уліку попыту ці наогул магчымасці збыту прадукцыі.

Адзінае больш-менш паўнавартаснае даследаванні сітуацыі з монагарадамі ў Беларусі было праведзена ў 2002-2003 годзе ў рамках праекта ПРААН «Развіццё дыялогу і партнёрства на рэгіянальным узроўні па прадухіленні росту беспрацоўя і беднасці пры рэструктурызацыі горадаўтваральных прадпрыемстваў». Ужо ў той час амаль на 90% з іх назіралася крытычная сітуацыя з занятасцю.




У сучаснай сістэме перакрыжавальных субсідый, льготных крэдытаў і арыентацыі вытворчасці ў першую чаргу на дасягненне валавых паказчыкаў даволі складана ацаніць, як змянілася становішча монагарадоў за прамінулыя дзесяць гадоў. Аднак можна выказаць здагадку, што пагаршэнне эканамічнага становішча Беларусі ў сваю чаргу абцяжарыла і праблемы дадзеных гарадоў, зрабіўшы горадаўтваральныя прадпрыемствы яшчэ менш устойлівымі, у той час як новых эканамічных магчымасцяў у дадзеных мясцовасцях не з'явілася.

Можна таксама меркаваць, што насельніцтва гэтых гарадоў усё часцей звяртаецца да ўласных стратэгій паляпшэння дабрабыту – у першую чаргу, міграцыі ў іншыя мясцовасці і краіны. Такім чынам, крызісная сітуацыя з працаўладкаваннем у асобных выпадках мякчэе, але гэта адбываецца за кошт пагаршэння крызісу інфраструктуры, зніжэння інвестыцыйнай прывабнасці, павелічэння долі сацыяльна маргінальных груп і гэтак далей. Палітыка дзяржавы, нягледзячы на праграмныя дакументы, якія заяўляюць аб неабходнасці рэструктурызацыі ў першую чаргу стратных горадаўтваральных прадпрыемстваў, на справе арыентавана на кансервацыю існага становішча спраў. Больш за тое, нядаўнія заявы прэзідэнта ўскладаюць яшчэ больш адказнасці за дабрабыт монагарадоў на горадаўтваральныя прадпрыемствы, што ў перспектыве прывядзе да вымывання абаротных сродкаў і пагаршэння эканамічнага становішча нават тых з іх, якія зараз з'яўляюцца адносна эканамічна паспяховымі.

Асноўныя падыходы да рэструктурызацыі горадаўтваральных прадпрыемстваў можна абагульніць у выглядзе наступных двух варыянтаў:

**Працяг на с.6**

# Сацыяльная адказнасць (працяг)

**Пачатак на с.2**

Пры гэтым СКТА неабходна цесна увязваць з праграмамі сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёнаў і краіны ў цэлым.

Неабходна ўбудаванне дзейнасці службаў занятасці ў стратэгію развіцця рэгіёнаў і падвышэнне яе значнасці ў карэктоўцы праграм навучання беспрацоўных, а таксама наладжванні партнёрскіх адносін з установамі сістэмы адукацыі.

Мясцовыя ўлады і профільныя міністэрствы павінны забяспечыць арганізацыйную і фінансавую падтрымку САР. На фінансаванне САР сродкі могуць прадугледжвацца ў дзяржаўным бюджэце, а таксама крыніцай могуць стаць паступленні ад прыватызацыі дзяржаўных актываў. Так, інвестарам, якія зацікаўлены ў прыватызацыі горадаўтваральнага прадпрыемства, неабходна прапаноўваць паніжэнне цаны актываў на суму выдаткаў, звязаных з САР і прадугледжаных у бізнес-плане.

У эканамічным плане рэструктурызацыя горадаўтваральных прадпрыемстваў можа пацягнуць за сабой не толькі беспрацоўе, але і паніжэнне паступленняў падаткаў у бюджэт, змяншэнне мясцовага попыту і пагаршэнне якасці важных грамадскіх паслуг.

Прыватызацыя горадаўтваральных прадпрыемстваў з'яўляецца, такім чынам, рызыкоўным мерапрыемствам, якое можа мець поспех толькі пры празрыстым дзяржаўна-прыватным партнёрстве і апрабацыі інстытуту САР у краіне.

Ураду выгадны ўдалы досвед САР у канкрэтным рэгіёне, паколькі гэты досвед пасля можна будзе тыражаваць, што дазволіць знізіць дзяржаўныя выдаткі на структурную перабудову эканомікі.

Развіццё інстытуту сацыяльна адказнай рэструктурызацыі з'яўляецца неабходным элементам падвышэння эфектыўнасці занятасці ў Беларусі. Механізм САР павінен не толькі служыць асновай прэвентыўных мер для прадухілення росту беспрацоўя і паніжэнні ўзроўню дабрабыту насельніцтва, але і дазволіць вырашыць задачу мадэрнізацыі дзяржаўных прадпрыемстваў.

Сённяшнія дзяржаўныя прадпрыемствы павінны ператварыцца ў канкурэнтаздольны бізнес.



# Палёгкі для ІП

**Што перашкаджае нармальна працаваць бізнесу? Як трэба скарэктаваць заканадаўства, каб стварыць спрыяльныя ўмовы для дзейнасці прадпрымальнікаў? Пра гэта ў межах «Народнай праграмы» разважаюць дырэктар Аналітычнага цэнтра Саюза юрыдычных асобаў «Рэспубліканская канфедэрацыя прадпрымальніцтва» Анатоль Змітровіч і дацэнт кафедры міжнародных эканамічных адносін БДУ Міхаіл Залескі.**


PHOTO BY MEDIA.NET

# «Сваяцкае» табу

Анатоль Змітровіч

Першачарговае праблемнае пытанне для індывідуальных прадпрымальнікаў на сёння - абмежаванне магчымасці прыцягваць наёмных працаўнікоў, якія не з'яўляюцца членамі іх сем'яў, у выніку чаго прадпрымальніцкаму сектару Беларусі наносяцца адчувальныя страты.

Напрыклад, у Расіі індывідуальны прадпрымальнік мае права прыцягнуць у якасці наёмнай працы асоб без сваяцкіх сувязяў да 15 чалавек.

У еўрапейскіх краінах аб'ём наёмнай працы не абмяжоўваецца. І, як паказвае практыка, прадпрымальнік (уладальнік вытворчасці) мае магчымасць без пераходу ў юрыдычную асобу прыцягваць наёмную працу без колькасных абмежаванняў. Адзіная праблема пераходу ў юрыдычную асобу - гэта калі ўладальнік хоча размясціць свае акцыі на біржы.

У выпадку дазволу ІП прыцягваць да сваёй дзейнасці наёмных працаўнікоў па-за сем'ямі будуць вырашаны наступныя пытанні:

**1.** Узровень афіцыйнага і неафіцыйнага беспрацоўя знізіцца.

**2.** У краіне ўзрасце патэнцыйная магчымасць стварэння новых працоўных месцаў у выпадку ўзнікнення крытычнай сітуацыі на рынку працы ў перыяд прыватызацыі і рэструктурызацыі прадпрыемстваў, скарачэння неэфектыўных працоўных месцаў у дзяржаўных структурах.


BELGAZETA.BY

**3.** Павялічыцца даходнасць бюджэту за кошт росту падатковых паступленняў ад ІП.

**4.** У ІП з'явіцца больш магчымасцяў па прасоўванні і экспарце беларускіх тавараў, што станоўча адаб'ецца на разгрузцы складоў прадпрыемстваў-вытворцаў.

**5.** Будуць вырашаны праблемы, звязаныя з дзейнасцю прадпрымальнікаў-інвалідаў, работнікаў няпоўнай занятасці, студэнтаў, цяжарных жанчын, прадпрымальнікаў прызыўнога ўзросту і г.д.

**6.** З'явіцца магчымасць удзелу ІП у інавацыйных праграмах ўраду і мясцовых органаў улады.

**7.** Прадпрымальнікі атрымаюць магчымасць большай мабільнасці, развіцця каапераційных сувязяў паміж сабой і асваення новых напрамкаў дзейнасці.

**8.** Часткова могуць быць пераадолены недахопы сезонных відаў дзейнасці і рэгіянальных абмежаванняў некаторых відаў вытворчасці тавараў і паслуг у невялікіх населеных пунктах і сельскай мясцовасці.

**9.** Пашырыцца сацыяльна-эканамічная база для стварэння новых унітарных прадпрыемстваў, таварыстваў з абмежаванай адказнасцю.

**10.** ІП атрымаюць магчымасць прымаць удзел у павышэнні ўласнай кваліфікацыі, у выкарыстанні паслуг, якія прадстаўляюцца аб'яднаннямі прадпрымальнікаў і суб'ектамі інфраструктуры падтрымкі малога прадпрымальніцтва.

► У еўрапейскіх краінах аб'ём наёмнай працы не абмяжоўваецца





# Лідары грамадства

Міхаіл Залескі

Колькасць прадпрымальнікаў у агульным складзе насельніцтва ніколі не бывае вялікай, бо дзейнасць гэтая вымагае пэўных здольнасцяў, навыкаў, ведаў і асаблівага складу асобы.

Разам з тым прадпрымальнікі ёсць стваральнікамі працоўных месцаў, падаткаплацельшчыкамі і нефармальнымі лідарамі грамадскай думкі.

Умацаванне гэтай сацыяльнай групы – надзейная гарантыя ўстойлівага гаспадарчага жыцця і дынамічнага ўдасканалення права. Але тое магчыма толькі пры пэўных умовах.

Мы жадаем, каб у цэнтры увагі грамадства былі галоўныя з іх, тыя, што мы маем на мэце стварыць: у першую чаргу гэта - эканамічны парадак, што будзе закладзены праз адбор рацыянальных алгарытмаў гаспадарчага дзеяння.



Апірышчам такога парадку павінны зрабіцца дакладна акрэсленыя і непарушныя маёмасныя правы асобы, гэтаксама і правы юрыдычных асоб, аб'яднанняў любога дазволенага заканадаўствам тыпу.

Мы падкрэсліваем ролю ў фармаванні прадпрымальніцтва свабоды аб'яднанняў, гэтак і іншых формаў сумеснай дзейнасці і партнёрстваў.

Мы бачым шляхам да задавальнення прадпрымальнікамі іхніх аб'ектыўных эканамічных патрэб сёння ажыццяўленне комплексу дзяржаўных мерапрыемстваў па скарачэнні індывідуальных рызыкаў кожнага прадпрымальніка дзеля росту агульных магчымасцяў. Першым крокам мы бачым безумоўнае выкананне дамоваў, другім - дзяржаўнае рэгуляванне ў сферы прамоцыі і абароны рынку.

Мы супраць празмернага ўмяшальніцтва дзяржавы ў правы распараджэння маёмаснымі комплексамі, немаёмаснымі правамі, працоўнымі рэсурсамі і прадстаўніцтвам ад імя прадпрымальнікаў.

Такім чынам, неабходная карэкцыя дзейснага заканадаўства і прыняцце дадатковых заканадаўчых актаў, каторыя зробяць дзейнасць прадпрымальніка паважанай у грамадстве, прыцягне да яе частку здольнай моладзі.

# Пратэст ІП

**Прадпрымальніцкае аб'яднанне «Перспектыва» папрасіла ўлады не ўводзіць абавязковую норму па суправаджальных дакументах для ІП-плацельшчыкаў адзінага падатку (плануецца на лета).**

У законапраекце *«Аб некаторых пытаннях рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі»* гаворыцца:

*«Індывідуальныя прадпрымальнікі , якія выплачваюць адзіны падатак пры ажыццяўленні раздробнага гандлю таварамі, аднесенымі да таварных груп, названых у падпункце 1.1 пункта 1 артыкула 296 Падатковага кодэксу Рэспублікі Беларусь (далей - тавар), абавязаны ажыццяўляць перавозку (транспартоўку), захоўванне, рэалізацыю гэтых тавараў на гандлёвых аб'ектах, гандлёвых аб'ектах грамадскага харчавання і гандлёвых месцах на рынках на падставе дакументаў, якія пацвярджаюць іх набыццё (паступленне)».*

*«На сённяшні момант гэта невыканальнае патрабаванне для ІП,* – заяўляюць у «Перспектыве». *– Справа ў тым, што абсалютная большасць прывозіць тавар з Расіі, дзе існуе вялікая і сур'ёзная праблема з выдачай пацвярджальных дакументаў пры водпуску тавару для беларускіх прадпрымальнікаў. Менавіта гэты факт не дазваляе нашаму бізнесу працаваць па суправаджальных дакументах. Накладныя, якія прапануюцца на расійскіх рынках у якасці дакументаў, у асноўным фальшывыя, а значыць , для нашых ІП - гэта крымінальны артыкул. Ніхто не хоча загадзя парушаць закон. Вынікі нашага апытання ІП на рынках і іншых гандлёвых пляцоўках паказалі, што каля 80 тысяч актыўных прадпрымальнікаў не змогуць ажыццяўляць прадпрымальніцкую дзейнасць, а працоўныя месцы будуць пад пагрозай закрыцця».*

Адзначаецца, што, *«калі б не было ІП, хатнія гаспадаркі штогод пераплачвалі бы за прадукты харчавання, спажывецкія тавары і паслугі да $300 у год. Гэта значыць, што ІП эканомяць беларусам да $1 мільярда долараў у год. Калі ўявіць, што іх месца займуць наменклатурныя юрыдычныя асобы і дзяржпрадпрыемств , яны ўсё роўна не змогуць стварыць такі ўзровень канкурэнцыі, такі шырокі асартымент тавараў і іх даступнасць. У першую чаргу, гэта датычыцца малых гарадоў і грамадзян з нізкім і сярэднім узроўнем даходу. Без ІП дабрабыт, як мінімум, паўмільёна чалавек быў бы значна ніжэйшым».*

У выпадку прыняцце нормаў, якія абавязваюць мець суправаджальныя дакументы, *«прагназуецца шырокі сацыяльны пратэст грамадства, з шматлікімі лакальнымі канфліктамі на месцах паміж прадпрымальнікамі і ўладамі. Людзі будуць абараняць сваю маёмасць ад канфіскацыяў усімі даступнымі сродкамі і спосабамі. Дзяржава атрымае сур'ёзную крыніцу напружанасці і канфліктаў , што можа прывесці да непрадказальных наступстваў».*



# Спачатку аўдыт (працяг)

Пачатак на с.3

- Мадэрнізацыя існуючай вытворчасці адначасова з дыверсіфікацыяй крыніц устойлівага эканамічнага росту
- Ліквідацыя прадпрыемства і пераарыентацыя дадзенай мясцовасці на іншыя крыніцы ўстойлівага эканамічнага росту адначасова з аказаннем сацыяльнай падтрымкі тым групам насельніцтва, чый дабрабыт можа пагоршыцца ў працэсе пераарыентацыі

Абодва названыя вышэй варыянты ўключаюць у сябе працэсы, пры планаванні і правядзенні якіх неабходна ўлічваць спецыфіку Беларусі:

- Паўнавартасны аўдыт прадпрыемства для вызначэння магчымасці яго рэструктурызацыі альбо ліквідацыі

У сітуацыі скажэння рынкавых сігналаў і магчымай зацікаўленасці мясцовых уладаў у тых ці іншых выніках аўдыту, дадзены этап запатрабуе прыцягнення высокакваліфікаваных незалежных экспертаў.

- Распрацоўка стратэгіі развіцця дадзенай мясцовасці шляхам публічнага дыялогу як мага больш шырокага кола стэйкхолдараў, які абапіраецца на аб'ектыўнае разуменне сітуацыі ў гэтай мясцовасці і рэалістычныя уяўленні пра перспектывы яе сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Вынікам гэтага дыялогу павінна быць стварэнне інстытуцыі (ці інстытуцый), якія будуць выконваць вядучую ролю ў ажыццяўленні гэтай стратэгіі

> ► Насельніцтва монагарадоў усё часцей звяртаецца да ўласных стратэгій паляпшэння дабрабыту – у першую чаргу, міграцыі ў іншыя мясцовасці

Адсутнасць у Беларусі не толькі вопыту такіх дыялогаў, але і незалежных сацыялагічных і эканамічных дадзеных, якія маглі б быць пакладзены ў яго аснову, а таксама незалежных прафесійных асацыяцый і саюзаў запатрабуе істотных выдаткаў на правядзенне такіх даследаванняў і медыяцыю дыялогаў (з прыцягненнем незалежных незацікаўленых бакоў).

Стварэнне інстытутаў развіцця запатрабуе значнай юрыдычнай дапамогі дзеля таго, каб яны адпавядалі інтэрэсам не толькі груп, блізкіх да ўладаў, але таксама і грамадства ў цэлым.

- Стварэнне спрыяльных умоў для развіцця малога і сярэдняга бізнесу ў дадзенай мясцовасці

Нягледзячы на тое, што развіццё малога і сярэдняга бізнесу дэкларуецца ў якасці аднаго з кірункаў развіцця краіны, да гэтага часу дзеянні дзяржавы шмат у чым супярэчаць гэтым дэкларацыям. Крытычным для дадзенай эканамічнай сітуацыі ў Беларусі з'яўляецца пытанне доступу прыватнага бізнесу да пазыковых сродкаў. Любыя рэальныя крокі ў гэтым кірунку запатрабуюць мер дзеля таго, каб зрабіць крэдыты больш таннымі, і такім чынам з'яўляюцца рэсурсаёмістымі.




Сярод асноўных накірункаў, якія запатрабуюць прыцягнення значных сродкаў, можна пералічыць:

- Аўдыт горадаўтваральных прадпрыемстваў з далейшай падрыхтоўкай да акцыянавання або ліквідацыі
- Стварэнне інстытутаў развіцця мясцовасці (бізнэс-інкубатараў, фондаў падтрымкі, банкаў развіцця і г.д.)
- Развіццё транспартнай, камунальнай, камунікацыйнай і іншай інфраструктуры
- Укладанні ў чалавечы капітал (навучанне, сацыяльная і адукацыйная інфраструктура і г.д.)

Толькі пэўная частка гэтых рэсурсаў можа быць атрымана ў выніку прыватызацыі горадаўтваральных прадпрыемстваў або стварэння новых прадпрыемстваў шляхам прыцягнення інвестыцый. Бальшыню выдаткаў прыйдзецца ўзяць на сябе дзяржаве, якой прыйдзецца звяртацца па дапамогу ў міжнародныя арганізацыі або да замежных крэдытораў.

Плюсы: паўнавартаснае выкарыстанне чалавечага патэнцыялу краіны для стварэння канкурэнтаздольнай, з устойлівым развіццём эканомікі, пераадоленне «кансервацыі крызісу».

Выклікі: пры наяўнасці поўнага дзяржаўнага кантролю усіх галін сацыяльнага і эканамічнага жыцця, а таксама наяўнасці вялікай колькасці прыватных інтарэсаў у дачыненні да горадаўтваральных прадпрыемстваў сярод прадстаўнікоў уладаў спатрэбіцца прыцягненне багата якіх незалежных спецыялістаў з вялікімі паўнамоцтвамі («крызісных менеджараў»), што, у сваю чаргу, зноў-такі стварае ўмовы для злоўжывання гэтымі паўнамоцтвамі.





# Народ гаворыць!

**Ці хацелі б вы стаць прадпрымальнікам? Вось што адказвалі на гэтае пытанне беларусы падчас вулічнага апытання «Народнай праграмы».**



*Не асабліва. Паўсюль шмат перашкодаў адміністратыўных. Пакуль усё аформіш...*



*Планы ёсць. Але, на жаль, дзяржава не падтрымлівае маладых прадпрымальнікаў.*



*Ды хаця б простую працу годную знайсці! Патрэбны пачатковы капітал для сваёй справы вялікі.*



*Я ўжо прадпрымальнік. Па маёй сферы дзейнасці ўсё дастаткова проста: падаткаабкладанне празрыстае, як і працэдура рэгістрацыі.*



*Гэтая ўлада не дае нармальна людзям рабіць сваю справу. Калі будзе свабодны пардпрымальнік, то чыноўнікам не будзе чаго рабіць.*



*А я прывык быць рабочым усё жыццё.*



*У нас на заводзе створаны ўсе ўмовы маладым спецыялістам для самарэалізацыі. Станавіцца прадпрымальнікам не бачу сэнсу.*



*Думаў, але пабойваюся. Вось крэдыт той самы ўзяць у банку – гэта шалёныя працэнты.*



*Ужо займаюся. Самае складанае – пачаць. Ад працы дзяржаўнай перайсці да свайго – гэта цяжка.*



*У гэтай краіне - не. Няма паўнавартасных умоваў...*



# РУХ за свабоду

## Хто мы?

Рух – зарэгістраванае праваабарончаасветніцкае грамадскае аб’яднанне. Мэты дзейнасці – дэмакратызацыя краіны, умацаванне яе незалежнасці, развіццё грамадзянскай супольнасці і абарона правоў чалавека, набліжэнне Беларусі да Еўрасаюзу.

Рух «За Свабоду» ўзначальвае вядомы палітык Аляксандр Мілінкевіч, кандыдат у прэзідэнты на выбарах-2006, кандыдат фізіка-матэматычных навук, лаўрэат прэміі Еўрапарламента “За свабоду думкі” імя Сахарава, былы намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкаму.




## Што мы робім?



«Народная праграма» – ініцыятыва Руху «За Свабоду» па выпрацоўцы новага бачання будучыні Беларусі. У выніку ўдзелу спецыялістаў і праз народнае абмеркаванне з’яўляюцца своеасаблівыя планы рэформаў у розных сферах

У розных гарадах Беларусі дзейнічае сетка Еўрапейскіх клубаў, якія закліканы пашыраць веды беларусаў пра краіны аб’яднанай Еўропы. Еўрапейскія клубы – гэта разнастайныя цікавыя сустрэчы, курсы і падарожжы.

Штогадовы курс лекцый па пытаннях еўраінтэграцыі палітолага, намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Алеся Лагвінца ўрозных гарадах Беларусі. Іншыя адукацыйныя школы ў Беларусі і за мяжой.

Кампаніі па назіранні за выбарамі – фіксуем парушэнні і фальсіфікацыі.

Прыхільнікамі Руху «За Свабоду» рэгулярна вырабляюцца белчырвона-белыя стужкі і магніты. Іх можна бачыць на аўтамабілях па ўсёй Беларусі.

Штогод на радзіме Васіля Быкава, у вёсцы Бычкі на Віцебшчыне, уручаецца прэмія ягонага імя «За свабоду думкі». Лаўрэаты – Лявон Вольскі, Зміцер Вайцюшкевіч, Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, Уладзімір Някляеў, Павел Севярынец, Алесь Пушкін, Алесь Марачкін, Ада Райчонак і Алесь Белакоз.

## Далучайся!

**Тэлефон: 8-017-2808863**
**Сайт: pyx.by**
**e-mail: info@pyx.by**




Бюлетэнь выдаецца Рухам “За Свабоду”. Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 25.02.2014 г. Кантакты Рэдакцыі: тэлефон: (+37517)2808863, е-пошта: info@pyx.by